■ Жанна Юбніцкая

## У МАГІЛЁВЕ ПАСЛЯ СКАРГІ ЖЫХАРОЎ ПРЫПЫНЕНА БУДАЎНІЦТВА КРАМЫ «ЕЎРАОПТ»

**На дадзены момант спынены ўсе будаўнічыя працы, а спецыяльная камісія праводзіць апытанне з нагоды чарговага ўшчыльнення на пр-це Дзімітрава.**



Тым не менш, жыхары раёна скептычна ставяцца да дзейнасці камісіі, якая складаецца з двух чалавек і ходзіць па кватэрах прылеглых дамоў, апытваючы грамадзян аб неабходнасці будаўніцтва крамы пад іх вокнамі.

- Прыйшлі дзве жанчыны, прадставіліся камісій, сказалі, што побач ёсць і адна, і другая дзіцячыя пляцоўкі і прапанавалі падпісацца пад гэтым, аднак я адмовілася, бо назваць тое дзіцячымі пляцоўкамі, на што яны паказвалі, язык не паварачваецца. Нас пасля будаўніцтва крамы пазбавяць апошняй зялёнай зоны ў раёне, - кажа адна з мясцовых жыхарак Ганна.

Дзяўчына выказала камісіі вялікія прэтэнзіі адносна іх метадаў працы, бо паставіць подпіс пад тым, што жыхары не супраць будаўніцтва новай крамы, можа любы мінак. Яго голас залічаць, краму пабудуюць, а жыхары бліжэйшых дамоў так і застануцца непачутымі.

- Няўжо складана сабраць усіх неабыякавых да праблемы грамадзян і параіцца з імі, а не ставіць перад фактам? Хоць і кажуць, што інфармавалі пра чарговае будаўніцтва на сайце гарвыканкама, а таксама праз мясцовую газету. Тых, хто іх чытае, у горадзе не так і шмат, - кажа Ганна.

Пасля калектыўнай скаргі ў гарвыканкам, пад якой падпісалася больш за 30 чалавек, у двары д.70 па пр-ту Дзімітрава адбыўся ямачны рамонт, якога двор чакаў ужо некалькі гадоў. Пра гэта было таксама напісана ў афіцыйным адказе з гарвыканкаму.

Трэба адзначыць, што дапамагалі ў складанні скаргі мясцовым жыхарам актывісты мясцовага цэнтра «Імпульс», якія не першы год змагаюцца за добраўпарадкаванне двара д.64 па пр-ту Дзімітрава. На дадзены момант жыхары пішуць чарговы ліст з нагоды непатрэбнага ім ушчыльнення ў вышэйстаячую інстанцыю.

Паводле жыхароў, побач знаходзіцца гандлёвы цэнтр «Кантынент», міні-рынак, дастатковая колькасць дробных крам, і ў будаўніцтве яшчэ адной крамы «Еўраопт» няма патрэбы.

■ Пан Тадэўш

## АБ ТЫМ ЯК ДУРНОТА МОЖА СТАЦЬ РЭАЛЬНАСЦЮ (ПАЧАТАК НА СТР.1)

Яго ініцыятыва з'яўляецца прыкладам таго, што чалавек застраў у эпохе савецка-нямецкай вайны 1941-1945 гадоў і пры ягонай волі ўсе бы вуліцы горада насілі імёны яе герояў. Як пацвярджэнне гэтаму, ён выступіў ініцыятарам усталявання бюста савецкаму генерал-маёру Раманаву, які абараняў Магілёў ад нямецкіх войскаў і знайшоў сродкі на яго выраб і ўсталяванне.

Уладзімір Цумараў па сваёй прыродзе чалавек ініцыятыўны. Вось і вырашыў ён таксама ўвайсці ў гісторыю не вярнуўшы нешта гістарычнае, не абмеркаваўшы гэта з магілёўцамі, а карыстаючыся толькі адным жаданнем увайсці ў гісторыю, што плошча Славы ўзнікла пры ім. Ці з'яўляецца гэты Слава сябрам, ці родным кіраўніка горада невядома.

У назве плошчы Славы няма логікі. Яна цалкам знікла, калі на плошчы з'явілася Ратуша і плошча пачала набываць абрысы ўласцівыя для губернскага горада і помнік "Змагарам за Савецкую ўладу", які празваны гараджанамі як "Аксана, якая бяжыць з Лаўсана" разам з барэльефамі стаў зусім нязграбным і няўпісваючымся ў архітэктурны пейзаж плошчы. Няўпісваецца таму, што на плошчы можа быць толькі адна дамінанта і гэтай дамінантай выступае Ратуша.

Эпоха савецкіх часоў нібы канула, аднак яна рэанімуецца дзякуючы тым людзям, якія былі выхаваны ў гэтыя часы і маюць па іх настальгію. Пры прыходзе да высокіх пасад яны пачынаюць рэалізоўваць тое, што ім дала савецкая школа, не маючы часу на тое, каб разабрацца ў іншых этапах гісторыі Беларусі і гісторыі Магілёва. Шкада, што ў тыя часы гэты прадмет не выкладаўся, а мець тонкую сувязь з магілёўскай грамадскасцю і творчай інтэлегенцыяй не дазваляе ідэалогія дзяржавы.

Мемырыял з "Аксанай" ужо даўно просіцца таго, каб ён разам з іншымі барэльефамі быў перанесены на Буйніцкае поле, дзе адбываліся самыя жорскія баі з нямецкімі войскамі. На месцы дэмантаванага мемарыяла варта аднавіць будынкі губернатара і губернскага Праўлення, у якіх размесціць музеі. Вось яны, як раз, такі і сталі бы магнітам для магілёўцаў і турыстаў. А пасля канчатковай адбудовы плошчы варта вынесці яе назву на грамадскае абмеркаванне.

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№72

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 15 чэрвеня 2014 г.

ГРАМАДСТВА

■ Пан Тадэўш

## АБ ТЫМ ЯК ДУРНОТА МОЖА СТАЦЬ РЭАЛЬНАСЦЮ

**Магілёў горад унікальны. У першую чаргу тым, што рашэнні, якія закранаюць інтарэсы шырокай групы грамадзян, не абмяркоўваюцца.**



Вось і апошняя ініцыятыва старшыні Магілёўскага гарвыканкама Уладзіміра Цумарава аб перайменаванні плошчы Савецкай у плошчу Славы ніяк не стыкуецца з вяртаннем гораду гістарычных назваў. Нібы дэкларавалі адно, а ў выніку вырашылі прыдумаць нешта іншае і на дзень горада зрабіць такі «падарунак» магілёўцам.

За гэтай ініцыятывай прыхавана жаданне прыдумаць новыя назвы і сімвалы, якія бы атаясамлялі горад з пэўнай асобай.

Першапачынальнікам новых назваў у Магілёве стаў яго былы кіраўнік Віктар Шорыкаў, які невядома з якога перапугу выступіў з ініцыятывай перайменаваць Быхаўскі рынак у Магілёўскі, а Мінскі рынак у Цэнтральны.

Дэпутаты гарсавета не дужа разважаючы, а тых людзей, якія там думаюць і разважаюць вельмі мала, а ў некаторых скліканнях іх і зусім няма, падтрымалі гэтую дурноту. У выніку, у горадзе паўсталі два наватворы, якія так і не прыжыліся сярод грамадзян. На маршрутных таксі дагэтуль пішуць Быхаўскі рынак, а за садавінай і гароднінай людзі працягваюць хадзіць на Мінскі рынак.

Гістарычная асаблівасць размяшчэння рынкаў Магілёва заключалася ў тым, што яны размяшчаліся на шляху ў бок іншых буйных гарадоў, адсюль мы і маем гістарычныя назвы Віленскі, Мінскі, Быхаўскі, Шклоўскі рынак.

Ідэя аб перайменаванні Савецкай плошчы ў плошчу Славы была высуната былым намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама, а цяпер дырэктарам філіяла "Белдзяржстрах" па Магілёўскай вобласці Анатолем Глазам.

працяг на стр.8

■ Станіслаў Дубовік

## МОСТ ПО ПРОСПЕКТУ ШМИДТА В МОГИЛЕВЕ ОТКРОЮТ 21 ИЮНЯ

**Об этом журналистам заявил председатель Могилевского горисполкома Владимир Цумарев во время посещения строительного объекта.**



По словам Владимира Цумарева, двустороннее движение на мосту откроют для всех видов транспорта: легкового, грузового, общественного в субботу в 10-00 утра.

Как ранее сообщил начальник отдела энергетики и транспорта управления экономики горисполкома Олег Демьянков, по шмидтовскому мосту будет ходить троллейбус № 7 – в одну сторону. Параллельно строители будут завершать работы на второй стороне моста.

«Я говорил, что по нормативам мост должен быть открыт полностью в марте 2015 года. Но с учетом того, что мы создали иной график работ – по необходимости строители трудились на объекте 24 часа в сутки в несколько смен, на выходных – думаю, что в течение 12-12,5 месяцев мы завершим весь комплекс работ. Я поставил строителям задачу: полностью открыть мост в августе», - подчеркнул мэр Могилева.

■ TUT.by

## В БРЮССЕЛЕ ПОЗИТИВНО ОЦЕНИЛИ ПЕРЕГОВОРЫ С ОФИЦИАЛЬНЫМ МИНСКОМ ПО УПРОЩЕНИЮ ВИЗОВОГО РЕЖИМА

**В Брюсселе позитивно оценивают диалог с официальным Минском по упрощению визового режима с Евросоюзом. При этом в прошлом году белорусы чаще всего получали положительные ответы на свои визовые заявки.**




Как заметила Еврокомиссар Сесилия Мальмстром (Cecilia Malmström) в комментарии журналистам на семинаре по визовой политике в Брюсселе, либерализация визового режима для белорусов имеет такие же риски, как и для жителей других стран: возникают вопросы с пересечением границ, коррупцией и миграцией. Она заметила, что пока сложно сказать, когда будут подписаны соглашения ЕС и Беларуси, но радует, что переговоры начались снова.

Напомним, что в интервью БелаПАН, опубликованном 11 июня, министр иностранных дел Беларуси Владимир Макей не исключил, что подписание соглашений с Евросоюзом можно ожидать к следующему саммиту Восточного партнерства, запланированному на конец 2015 года.

В прошлом году, как и в 2012 году, Беларусь лидировала среди стран, жители которой чаще всего получали положительные ответы на заявки на шенгенские визы. На втором месте в этом вопросе граждане России, на третьем – Украины. В 2013 году 777 813 белорусов получили визы, что на 79 409 человек больше, чем в 2012 году. В прошлом году ЕС удовлетворил 99,2% визовых заявок белорусов. Отказ получили 0,8% из подававшихся. С каждым годом все больше белорусов получают шенгенскую визу.

## НОРВЕЖЦЫ ПРИЗНАЛИСЬ В НЕСПОСОБНОСТИ ЗАМЕСТИТЬ РОССИЙСКИЙ ГАЗ В ЕС

**Норвежская нефтегазовая компания Statoil не сможет заменить российские поставки газа в Европу в случае эскалации конфликта между «Газпромом» и «Нафтогазом Украины». Об этом заявил сегодня на Мировом нефтяном конгрессе в Москве исполнительный директор Statoil Хельге Лунд.**



«Мы можем увеличить поставки, но не способны обеспечить объемы, которые поставляет Россия - второй по величине поставщик в мире», - сказал он, комментируя возможность прекращения транзита в Евросоюз через территорию Украины (15% общего объема потребления) на фоне перевода «Нафтогаза» в режим предоплаты за поставки российского газа.

Глава Statoil выразил надежду, что «будет найдено прагматичное решение, и индустрия продолжит работать». «Геополитика оказывает лишь временное влияние на отрасль, инвестиции в которую носят долгосрочный характер», - считает Лунд. По его словам, Европа пока не испытывает проблем с закачкой газа в подземные хранилища (ПХГ).

Он добавил, что надеется на скорое разрешение конфликта между Россией и Украиной мирным образом.

Кроме того, глава Statoil подчеркнул, что санкции против РФ не влияют на деятельность норвежской компании в России и на сотрудничество с российскими компаниями, в частности, с «Роснефтью».

По словам Лунда, он продолжает взаимодействие с президентом «Роснефти» Игорем Сечиным, включенным в санкционный список США, а компании работают над реализаций арктических проектов.

«Мы продолжаем реализацию арктического соглашения с «Роснефтью», оно не изменилось из-за санкций. Планируем бурение шести скважин», - сказал он ИТАР-ТАСС. Контакты на уровне топ-менеджмента продолжаются, уточнил он.



■ Ядвіга Люнтова

## РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА «ДЗЕЯСЛОЎ» ПРЭЗЕНТАВАЛА Ў МАГІЛЁВЕ СВАЮ НОВУЮ РУБРЫКУ «АНТАЛОГІЯ РАСІЙСКАЙ РОК-ПАЭЗІІ»

**У магілёўскім грамадскім цэнтры «Кола» 5 чэрвеня рэдакцыя часопіса «Дзеяслоў» прэзентавала новую рубрыку выдання — «Анталогію расійскай рок-паэзіі».**




Як адзначыў на прэзентацыі галоўны рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч (Сачанка), ініцыятарам новай рубрыкі стаў адказны сакратар часопіса Анатоль Івашчанка. Яна выйшла ў 69-м нумары «Дзеяслова» за сакавік—красавік 2014 года. «Шмат гадоў расійская рок-паэзія перакладалася на беларускую мову, — адзначыў Івашчанка. — А гэтую «Анталогію» склала тое, што можна з поўным правам назваць «Легенды рускага року».

Паводле яго, задума «Анталогіі» з'явілася пасля таго, як музыкант з Бялынічаў Юрый Несцярэнка пераклаў на беларускую мову некалькі тэкстаў Андрэя Макарэвіча з прадмовай «Мабыць, ужо час». «Мабыць, прыйшоў час такой цікавай спробы, у пэўным сэнсе i заканамернага, i нечаканага эксперымента», — сказаў Івашчанка.

Літаратары расказалі прысутным, што ў рубрыку ўвайшлі пераклады тэкстаў песень Віктара Цоя, Андрэя Макарэвіча, Барыса Грабеншчыкова, Канстанціна Кінчава, Юрыя Шаўчука і іншых славутых расійскіх рок-музыкантаў.

Падчас прэзентацыі Анатоль Івашчанка і Юрый Несцярэнка спявалі пад гітару песні Віктара Цоя і Андрэя Макарэвіча ў беларускім перакладзе, а Барыс Пятровіч і Усевалад Сцебурака чыталі прысутным свае вершы.

«Я вырас на песнях «Машыны часу», таму мне было цікава перакласці іх на беларускую мову», — сказаў у сваю чаргу Юрый Несцярэнка. На працягу апошняга года ён пераклаў на беларускую мову больш як дзесяць песень Андрэя Макарэвіча. Сярод іх — «Кожны правы», «Снег», «Не дай мне ўпасці», «Дзень гневу», «Зоркі не ездзяць у метро» і іншыя, якія ён збіраецца сёння прэзентаваць у магілёўскім грамадскім цэнтры «Кола».

Паводле Несцярэнкі, ён пасылаў Макарэвічу беларускія тэксты песень, а 8 снежня 2013 года сустракаўся са славутым спеваком у Мінску. «Гэта была кароткая сустрэча, але ён ужо ведаў, наконт чаго. Таму сам-насам усё абмеркавалі, і ён даў згоду на пераклад», — сказаў бялыніцкі музыкант.

Юрый Несцярэнка таксама паведаміў, што Макарэвіч прыязджаў у Беларусь у пошуках сваіх каранёў, якія па бацькоўскай лініі знаходзяцца ў вёсцы Паўловічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, а па мацярынскай — на Віцебшчыне.

■ Якуб Корсак

## ПАД МСЦІСЛАВАМ ЗНОЙДЗЕНЫ ЭЛЕМЕНТЫ РЫЦАРСКАГА ДАСПЕХА ВЯЛІКАКНЯСКАГА ВАЯРА XVI СТАГОДДЗЯ

**Пра гэта паведаміў магілёўскі археолаг Ігар Марзалюк.**



Новыя знаходкі былі знойдзены на тым самым месцы, дзе ў жніўні 2013 года быў знойдзены ўнікальны шлем салад амара воіна ВКЛ. Усе знаходкі належыць аднаму і таму ж ваяру.

Дзякуючы знойдзенай шпоры, якая захавалася ў ідэальным стане, а на ёй ёсць нават і падвязкі, цяпер на Магілёўшчыне ёсць адзіны ў Беларусі камплект шпор аднаго і таго ж ваяра.

Яшчэ Ігар Марзалюк паведаміў пра знойдзены элемент латнага даспеху - металічны гульфік. Усе знойдзеныя артэфакты перададзены на рэстаўрацыю. Плануецца, што цалкам адрэстаўраваны рыцарскі даспех прэзентуюць на рыцарскім фэсце, які адбудзецца ў Мсціславе 26-27 ліпеня.

Знаходкі выклікаюць велізарную цікавасць гісторыкаў, бо дзякуючы ім можна судзіць аб баявым абмундзіраванні сярэднявечнага рыцара.

Трэба адзначыць, што ў раскопках удзельнічаў зводны атрад «Нашчадкі Вялікай Перамогі», які складаецца са студэнтаў МДУ імя Куляшова, а таксама Магілёўскага вышэйшага каледжа МУС. Велізарную дапамогу ў пошуку артэфактаў археолагам аказалі мінскія дайверы з клуба «Марскі Пегас».

Яўген Калмач

## У МАГІЛЁВЕ ЭКС-КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ АБСКАРДЗІЎ РАШЭННЕ МІЛІЦЫІ СПЫНІЦЬ СПРАВУ АБ ЯГО ЗБІЦЦІ

**Экс-кандыдат у дэпутаты Магілёўскага абласнога і Магілёўскага гарадскога Саветаў дэпутатаў Аляксей Паўлоўскі накіраваў скаргу ва УУС аблвыканкама і гарадскую пракуратуру з патрабаваннем адмяніць рашэнне аб спыненні справы аб яго збіцці.**



Напад на Паўлоўскага быў здзейснены 16 сакавіка каля дома № 122 па вуліцы Грышына, калі ён раскладваў па паштовых скрынях свае інфармацыйныя ўлёткі. Паводле апазіцыйнага актывіста, двое грамадзян, відаць бацька і сын, адзін з якіх заяўляў, што ён палкоўнік міліцыі і служыў у Афганістане, нанеслі яму ўдары па галаве і заломвалі рукі. У далейшым Паўлоўскі прайшоў судова-медыцынскі агляд, які пацвердзіў цялесныя пашкоджанні. Аднак РАУС Ленінскага раёна Магілёва, правёўшы праверку, не ўстанавіў факта нанясення гэтых цялесных пашкоджанняў двума вышэйзгаданымі грамадзянамі.

У паведамленні намесніка начальніка Ленінскага РАУС Аляксандра Патарэнкі аб спыненні справы аб адміністрацыйным правапарушэнні Паўлоўскаму пры нязгодзе прапаноўвалася скардзіцца ў вышэйшую інстанцыю або суд. Тэрміны абскарджання ў лісце не ўказваліся.

Аднак пасля таго, як Паўлоўскі звярнуўся ва УУС Магілёўскага аблвыканкама, яму прыйшоў адказ за подпісам намесніка начальніка ведамства Сяргея Іванова, што тэрміны падачы скаргі скончыліся. Да таго ж, паводле сцвярджэння абласнога міліцэйскага чыноўніка, Паўлоўскі павінен быў падаць сваю першую скаргу не ва УУС, а ў Ленінскі РАУС Магілёва. "Паўлоўскім быў парушаны парадак абскарджання пастановы па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні. Так, у парушэнне часткі 2 артыкула 12.2 ПВКоАП Рэспублікі Беларусь скарга пададзена не ў Ленінскі РАУС, а ва УУС Магілёўскага аблвыканкама", — гаворыцца ў адказе Іванова.

У новай скарзе ва УУС і пракуратуру Паўлоўскі апрача ўсяго патрабуе не толькі аднавіць тэрміны падачы абскарджання па справе аб яго збіванні, бо яму не было раней пра гэта паведамлена, але і "абавязаць Ленінскі РАУС Магілёва ў наступным у адказах указваць тэрмін абскарджання і вышэйшую інстанцыю, каб не ўводзіць грамадзян у зман".

Паўлоўскі таксама просіць адмяніць рашэнне Ленінскага РАУС аб спыненні адміністрацыйнай вытворчасці па справе аб яго збіцці.

Якуб Корсак

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЕПАРХІІ ЎПЕРШЫНЮ ПРАЙШЛА АЛІМПІЯДА НАВУЧЭНЦАЎ НЯДЗЕЛЬНЫХ ШКОЛ

**У храме святога Пантэлеймона ў вёсцы Кадзіна Магілёўскага раёна 11 чэрвеня прайшла першая ў Магілёўскай праваслаўнай епархіі алімпіяда навучэнцаў нядзельных школ.**

Асноўная мэта алімпіяды заключаецца ў тым, каб дзеці больш знаёміліся з людзьмі, якія дасягнулі значных духоўных вышынь і духоўнай маралі, і служылі ў жыцці гэтых дзяцей арыенцірам, узорам для пераймання, распавёў настаяцель кадзінскага праваслаўнага храма айцец Васіль.

Тэма першай у епархіі алімпіяды навучэнцаў нядзельных школ была прысвечана прападобнаму Сергію Раданежскаму. Дзеці выкладалі свае думкі па 48 пытаннях.

«Таксама вельмі важна, што дзеці з розных нядзельных школ размаўляюць, сябруюць, дзеляцца сваімі пазнаннямі. Ім цікава. Хрысціяне павінны ведаць адзін аднаго, разам маліцца, сябраваць», — гаворыць айцец Васіль.

У першай у Магілёўскай епархіі алімпіядзе ўдзельнічалі 28 навучэнцаў з нядзельных школ прыходаў Магілёўскага раёна, Магілёва, Баранавіцкага раёна, расійскага Смаленска, якія праявілі сябе як найбольш старанныя ў вучэнні.

Паводле айца Васіля, падобныя алімпіяды часта праходзяць у іншых праваслаўных епархіях БПЦ. «Радуе, што наш прыход задаў тон і паказаў прыклад у Магілёўскай епархіі. Будзе працяг — прыходы Магілёва плануюць сёлета правядзенне яшчэ дзвюх алімпіяд», — сказаў святар.

Пасля алімпіяды ў Кадзіна для дзяцей правялі экскурсія па Магілёву, паведамляе БелаПАН.



Пан Тадеуш

## СУД ЛЕНІНСКАГА РАЁНА МАГІЛЁВА НЕ СТАЎ РАЗГЛЯДАЦЬ СПРАВУ АБ ВЫСЯЛЕННІ МАЦІ-АДЗІНОЧКІ З ІНТЭРНАТА

**Суд Ленінскага раёна Магілёва пакінуў без разгляду іск ААТ «Будтрэст №12» аб высяленні з інтэрната арганізацыі Ірыны Ільінскай, маці-адзіночкі двух непаўналетніх дзяцей, з-за няяўкі істцоў на судовае пасяджэнне.**



Нагадаем, раней суд згадзіўся з довадамі адміністрацыі будтрэста №12 аб неабходнасці высялення Ільінскай з двума дзецьмі васьмі і двух гадоў з інтэрната будаўнічай арганізацыі без выдзялення іншага памяшкання. 23 красавіка калегія Магілёўскага абласнога суда адмяніла гэтае рашэнне і накіравала справу ў раённы суд на новы разгляд.

Пасля таго як прадстаўнікі ААТ «Будтрэст №12» не з'явіліся на працягу больш як 15 хвілін у зале судовага пасяджэння, суддзя Валянціна Лапаціна, пачаўшы працэс, дала слова адказчыцы Ірыне Ільінскай. Апошняя хадайнічала аб пакіданні іску без разгляду з-за адсутнасці супрацьлеглага боку, які выступіў ініцыятарам суда.

Было высветлена, што ААТ «Будтрэст №12» праінфармаванае аб даце і месцы судовага пасяджэння яшчэ ў маі, аднак ніякіх паведамленняў з просьбай аб пераносе суда ад істцоў не паступала. Таксама не было паведамлена аб уважлівых прычынах адсутнасці на сённяшнім працэсе.

Суддзя Лапаціна задаволіла хадайніцтва адказчыцы, пакінуўшы іск будтрэста без разгляду.

Ірына Ільінская мела намер 1 чэрвеня правесці пікет супраць высялення яе сям'і з інтэрната, аднак Магілёўскі гарвыканкам не дазволіў ёй правядзенне акцыі пратэсту ў цэнтры горада.

18 сакавіка прыблізна 30 бацькоў вучняў сярэдняй школы № 26 звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай не дапусціць высялення з інтэрната Ільінскай з двума малалетнімі дзецьмі. Адміністрацыя прэзідэнта пакінула зварот без разгляду. «Звароты, у якіх абскарджваюцца судовыя пастановы, пакідаюцца без разгляду і падлягаюць вяртанню заяўнікам», — гаварылася ў адказе з адміністрацыі.

У 2004 годзе, паводле слоў Ільінскай, з ёю быў заключаны бестэрміновы дагавор найму жылога памяшкання ў інтэрнаце будтрэста № 12. Аднак у 2011 годзе бестэрміновы дагавор быў перазаключаны на тэрміновы. Пры гэтым адміністрацыя будтрэста абяцала, што для Ільінскай ніякіх негатыўных наступстваў гэта не нясе, паведаміла «НАШаму Магілёву» жанчына. Тым не менш пасля заканчэння тэрміну дагавора найму жылога памяшкання адміністрацыя падала іскавую заяву ў суд аб высяленні Ільінскай і яе двух малалетніх дзяцей без прадастаўлення іншага жылля.

Станіслаў Дубовік

## У МАГІЛЁВЕ ПАСОЛ ЧЭХІІ ЗАКЛІКАЎ ЗАХАВАЦЬ ПАЛІТЫЧНЫ ДЫЯЛОГ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЕС

**Палітычны дыялог паміж Беларуссю і Чэхіяй, як краінай, якая ўваходзіць у Еўрасаюз, вельмі важны, і ён павінен працягвацца, заявіў 28 мая ў Магілёве пасол Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мілан Экерт на сустрэчы з грамадскасцю ў канферэнц-зале гасцініцы «Магілёў».**

Паводле кіраўніка чэшскай дыпмісіі, у палітычным плане пазіцыя Чэхіі ў адносінах да Беларусі не адрозніваецца ад агульнай пазіцыі ЕС. Ён адзначыў як станоўчыя моманты працу двухбаковай міжурадавай камісіі па эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, удзел міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея ў Віленскім саміце Ўсходняга партнёрства ў лістападзе 2013 года.

Экерт паведаміў, што ў найбліжэйшыя гады сваёй дзейнасці мае намер прыкладаць шмат намаганняў для развіцця культурных і эканамічных сувязяў. Ён сказаў, што цяпер у Чэхіі вучацца 480 маладых людзей з Беларусі, у 2013 годзе праз консульскі аддзел пасольства Чэхіі візы атрымалі каля 20 тыс. беларускіх грамадзян.

Чэхія займае дзявятае месца сярод усіх імпарцёраў у Беларусь, і за мінулы год чэшскія кампаніі ўклалі ў беларускую эканоміку прыкладна 500 млн долараў.

Пасол лічыць важным рабіць упор на развіццё супрацоўніцтва паміж асобнымі рэгіёнамі і нават гарадамі дзвюх краін. Напрыклад, ужо ёсць прапанова аб супрацоўніцтве чэшскага Тэрэзіна і беларускага Бабруйска.

Экерт паведаміў, што ўжо наведаў і плануе наведаць шэраг гарадоў Беларусі, і мэтай гэтых візітаў з'яўляецца больш цеснае наладжванне кантактаў як з уладай, так і з грамадскасцю. У Магілёве пасол Чэхіі знаходзіўся па запрашэнні мясцовага Цэнтра гарадскіх ініцыятыў.

Станіслаў Дубовік

## МАГІЛЁЎ І КІТАЙСКІ ГОРАД ЧЖЭНЧЖОУ ЎСТАНАВІЛІ ПАРОДНЕНЫЯ АДНОСІНЫ

**Прадстаўнікі выканаўчай улады Магілёва і Чжэнчжоу — сталіцы кітайскай правінцыі Хэнань — падпісалі 12 чэрвеня пагадненне аб устанаўленні пародненых адносінаў.**

Цырымонія падпісання праходзіла ў будынку магілёўскай ратушы. З беларускага боку пагадненне падпісаў старшыня Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Цумараў, з кітайскага — кіраўнік дэлегацыі, намеснік мэра народнага ўрада Чжэнчжоу Льюь Донг.

Звяртаючыся да прысутных, кіраўнік кітайскай дэлегацыі выказала надзею, што пагадненне дасць магчымасць больш цеснага і шырокага супрацоўніцтва паміж двума гарадамі.

У сваю чаргу Уладзімір Цумараў нагадаў, што нагодай для ўстанаўлення супрацоўніцтва з кітайскімі калегамі стала падпісанне ў 2004 годзе пагаднення аб устанаўленні дружалюбных адносінаў паміж Магілёўскай вобласцю і правінцыяй Хэнань. Пратакол аб супрацоўніцтве паміж Магілёўскім гарвыканкамам і народным урадам горада Чжэнчжоу быў падпісаны 7 лістапада 2007 года.

«На працягу апошніх пяці гадоў афіцыйная дэлегацыя Магілёва неадназразова выязджала ў Чжэнчжоу на розныя міжнародныя інвестыцыйныя форумы. Але менавіта цесныя адносіны ў сферы культуры і адукацыі зблізілі нашы гарады», — падкрэсліў магілёўскі мэр. Ён нагадаў, што ў 2012 годзе ў міжнародным пленэры па жывапісу ў Магілёве ўзялі ўдзел кітайскія пейзажысты, у ратушы прайшла фотавыстава ў гонар 20-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносінаў паміж КНР і Беларуссю. У сваю чаргу ў Кітаі гастраляваў сімфанічны аркестр Магілёўскай гарадской капэлы.

«У межах эканамічнага супрацоўніцтва неабходна заначыць, што за 2013 год знешнегандлёвы абарот Магілёва з КНР склаў 48 млн. долараў, што на 20,6% больш да ўзроўню 2012 года», — сказаў Цумараў.

Паводле яго слоў, сальда знешняга гандлю Магілёва з Кітаем склалася адмоўным у памеры 47 млн. долараў. Асноўным экспарцёрам магілёўскай прадукцыі ў Кітай выступае ААТ «Магілёўхімвалакно».

Падпісанае пагадненне заключана на пяць гадоў. Калі ніводны з бакоў не выкажа жаданне яго скасаваць, то яно будзе працягвацца аўтаматычна.

Пасля падпісання пагаднення аб устанаўленні пародненых адносінаў было адзначана, што зараз у Магілёва 16 гарадоў-пабрацімаў і 23 гарады-партнёры.



**МАГІЛЁЎ**

**Насельніцтва:** 371 318 чалавек (звесткі 2013 г.)

**Плошча горада:** 118.50 км²



**ЧЖЭНЧЖОУ**

**Насельніцтва:** 8 626 505 чалавек (звесткі 2013 г.)

**Плошча горада:** 7.446 км²

Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ СТАРТАВАЛА АКЦЫЯ “МАСТАЦТВА НА КАЛЁСАХ”

**У яе межах па абласному цэнтру будуць курсіраваць тралейбусы з выявамі прац магілёўскіх мастакоў, скульптараў і фатографаў.**

Ініцыятарам акцыі выступіў Цэнтр гарадскіх ініцыятыў.

Першым аўтарам, чыя карціны размясціліся ў тралейбусе маршрута №4, стаў мастак Базыль Камароў.

Ідэя акцыі “Мастацтва на калёсах” належыць магілёўскаму гісторыку Алесю Агееву. Паводле яго ў бліжэйшы час акцыю чакае працяг. Імя наступнага аўтара, чые працы з’явяцца ў тралейбусах пакуль трымаецца ў сакрэце.



Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ ПРАЦЯГВАЕЦЦА БАРАЦЬБА ЖЫХАРОЎ ЗА СВАЕ ДАМЫ Ў ВАЕННЫМ ГАРАДКУ

**У Магілёве жыхары сямі запланаваных да зносу дамоў па вуліцы Крупскай паскардзіліся ў пракуратуру і Мінбудархітэктуры на мясцовыя ўлады, якія, паводле іх меркавання, адмаўляюцца выконваць даручэнне міністра аб паўторным інструментальным абследаванні будынкаў.**




Раней жыхары сямі дамоў па вуліцы Крупскай на тэрыторыі былога ваеннага гарадка запатрабавалі ад гарадскіх улад адмяніць рашэнне аб зносе, прынятае, як яны лічаць, незаконна. Грамадзяне сцвярджаюць, што 26 снежня 2013 года гарвыканкам неабгрунтавана і тайна прыняў рашэнне, якое аспрэчваецца зараз у судзе, а акты абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць рэчаіснасці. Жыхары ўпэўненыя, што іх дамы зносяць для далейшага будаўніцтва, што трэба кваліфікаваць як канфіскацыю зямель пад дзяржаўныя патрэбы, і гэтае жыллё не можа лічыцца непрыдатным для пражывання. Прадстаўнікі магілёўскай гарадской і абласной улады сцвярджаюць адваротнае, заяўляючы, што ўсе дзеянні гарвыканкама законныя.

Пасля звароту жыхароў у Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва 28 сакавіка кіраўнік ведамства Анатоль Чорны ў лісце ад 17 красавіка на імя адной з жыхарак паведаміў, што гэтае жыллё падлягае зносу з канфіскацыяй зямельных участкаў для дзяржаўных патрэб. Разам з тым з-за нязгоды жыхароў з актамі абследавання міністэрства даручыла ўпраўленню ЖКГ Магілёўскага аблвыканкама сумесна з Магілёўскім гарвыканкамам правесці паўторнае абследаванне стану запланаваных да зносу дамоў.

Пасля атрымання ліста 35 жыхароў звярнуліся да магілёўскіх улад з просьбай правесці абследаванне публічна і адкрыта ў прысутнасці саміх уладальнікаў жылля і ўласнікаў кватэр. Аднак у адказе намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкама Аляксандра Вераксы ад 27 мая гаворыцца, што «заканадаўствам не рэгламентаваны парадак абследавання жылых дамоў з удзелам грамадзян, іх законных прадстаўнікоў».

Такі адказ жыхары расцанілі як сабатаж і адмову выканаць даручэнне міністра архітэктуры і будаўніцтва аб паўторным інструментальным абследаванні іх дамоў з іх жа ўдзелам. У сваіх скаргах у абласную пракуратуру і Мінбудархітэктуры яны патрабуюць абавязаць магілёўскія ўлады неадкладна пачаць і ў кароткія тэрміны выканаць даручэнне кіраўніка Мінбудархітэктуры аб паўторным інструментальным абследаванні стану дамоў.

Нагадаем, што 19 мая ў Магілёве адбыўся суд па скарзе жыхароў запланаваных да зносу дамоў па вуліцы Крупскай на рашэнне гарвыканкама аб зносе. Суд прызначыў судова-будаўнічую экспертызу будынкаў, якая будзе праведзена пасля таго, як жыхары збяруць на яе некалькі дзясяткаў мільёнаў рублёў.

Паводле рашэння магілёўскіх улад, якое яны абгрунтоўваюць указам прэзідэнта № 563 ад 16 снежня 2013 года, што набыў моц 1 красавіка 2014 года, тыя, хто мае ў дамах для зносу прыватызаваныя кватэры, уселяцца ў арэнднае жыллё і атрымаюць грашовую кампенсацыю па рынкавым кошце сваіх цяперашніх кватэр. Жыхарам непрыватызаваных кватэр будзе прапанавана жыллё з дзяржаўнага жылога фонду з магчымасцю яго прыватызацыі да 2016 года. Грамадзяне не згодныя з перспектывай страты уласнасці, якая ім належыць.

## У “КАЗІМІРАЎЦЫ” ПАБУДУЮЦЬ ПАЛІКЛІНІКУ

**На рэалізацыю праекта плануецца накіраваць 1,5 мільярды рублёў.**




Камітэт па архітэктуры і будаўніцтву Магілёўскага аблвыканкама пачаў распрацоўваць праект паліклінікі. Яго плануецца завершыць восенню бягучага года.

На дадзены момант у мікрараёне функцыянуе толькі кабінет амбулаторнага прыёма, куды ў вызначаныя часы прыязджаюць лекары, а медперсанал вымярае ціск і робіць прышчэпкі.

Паводле прагнозаў к 2020 году насельніцтва Казіміраўкі павялічыцца ў 1,5 разы і дасягнець 50 тысяч чалавек і таму будаўніцтва паліклінікі вельмі актуальна для мікрараёна.